


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 3 (264) ЛЮТЫ 2019 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

*Верым, што лепшая частка жыцця – тая, якую пражыць мы збіраемся*

*Рыгор Барадулін*

НАША ЖЫЦЦЁ

# «ХУТКА ЛЮДЗЕЙ ПАЧНУЦЬ ЕСЦІ...»

**Ваўкі трымаюць у страху жыхароў паўночна-ўсходняй часткі Віцебшчыны. Выхадам санітараў лесу «у людзі» асабліва занепакоеныя ў Шумілінскім і Гарадоцкім раёнах. Недалёка ад вёскі Мікалаева ў Шумілінскім раёне зграя ваўкоў загрызла буйнога лася.**

Начальнік Гарадоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету, у зону кантролю якой уваходзіць і Шумілінскі раён, Дзмітрый Моргаўцаў ў гэтым не бачыць чагосьці пагрозлівага людзям і прыродзе:

— На тое ж ён і драпежнік! Акрамя гэтага, не варта забываць, што ваўкі палююць на лясную і палявую жыўнасць, у тым ліку і на шкоднікаў лясной і сельскай гаспадаркі. Напасці на буйнога ласся для шэрага санітара — задача не з простых. Дарослыя, здаровыя, у росквіце гадоў ласі рэдка становяцца іх здабычай, таму драпежнікі дзейнічаюць выбарча. Звычайна яны перасьледуюць хворых, параненых браканьерамі, саслабелых ад хвароб, паразітаў, голаду, а таксама старых жывёл. Магчыма, менавіта такі лось стаў ахвярай ваўчынага палявання на Шуміліншчыне. Што тычыцца жывёл, якія прыходзяць у вёскі і нападаюць на хатніх сабак, то і тут могуць быць свае нюансы.

Сабака, якая прывязаная на ланцугу або гуляе па вёсцы — лёгкая здабыча. На такое паляванне часцей выходзяць ваўкі-адзіночкі, якім цяжка здабыць сабе без дапамогі таварышаў ежу. Зразумела, што такія выпадкі палохаюць, аднак нападаў на людзей не было. Чуткі пра тое, што ваўкоў развялося ў лясах настолькі шмат, што з-за недахопу ежы яны робяць набегі на вёскі, таксама суб'ектыўныя. Воўк — жывёла, якая мігруе, за ноч можа прайсці да 60 кіламетраў. Паляўніцтвазнаўцы ў гэтым плане валодаюць больш аб'ектыўнай інфармацыяй. Падчас рэйдаў мы сутыкаемся з воўчымі слядамі. Зыходзячы толькі з гэтых фактаў, казаць пра тое, што іх папуляцыя зашкальвае, нельга...

На выходных у групе «Тыповы Віцебск» сацыяльнай сеткі Вконтакте з'явіліся свежыя фота крывавага следу і з'едзенай напалову сабакі каля вёскі Вялікія Стайкі на Гарадоччыне з пагрозлівай подпісам: «Начная праца ваўкоў. Хутка людзей пачнуць жэрці».

Не ўсе карыстальнікі сеткі згодныя з гэтым сцвярджэннем. Некаторыя падзяляюцца сумненнямі: «Гэта не ваўчыная работа ... хтосьці напалову рассек, каб людзі патрабавалі адстрэлу ваўкоў... Ваўкі з'ядаюць мяса, пакідаючы косткі, абгрызаючы галаву, а тут галава зусім некранутая».

Па чутках, драпежнікі панадзіліся хадзіць не толькі ў госці да вяскоўцаў, але і на ўскраіны райцэнтра, дзе палююць на дваровых сабак. Два тыдні таму такі выпадак адбыўся на вуліцы Талкачова.

Старшыня раённай камісіі па арганізацыі і прыняцця мер па выдаленні з тэрыторыі населенага пункта, садаводчага таварыства або дачнага кааператыва дзікай жывёліны, галоўны ветэрынарны ўрач Гарадоцкага раёна Сяргей Зайцаў боязі не падзяляе, хоць і не хавае, што праблема існуе:

— Падлічыць колькасць звера складана, яго міграцыі ў апошнія гады маглі ўзмацніцца ў сувязі са знішчэннем дзіка. Да людзей воўк выходзіць у крайніх выпадках, якія з'яўляюцца хутчэй выключэннем, чым правілам. Часцей за ўсё, гэта следства шаленства. Не выключана, што гарадакчан тэрарызуюць вандроўныя сабакі, якія збіліся ў зграі і жывуць на ўскраіне. Яны не баяцца людзей, паводзяць сябе побач з дамамі нахабна і ўпэўнена. У студзені камунальнікі адлавілі 9 здзічэлых сабак. Не спяць у шапку і нашы паляўнічыя. Спачатку года яны ўжо адстралялі 13 ваўкоў. А ў мінулым годзе — 29. На тэрыторы паляўнічых угоддзяў працягваецца праца па рэгуляванні колькасці і здабычы ваўкоў, ліс і іншых звяроў. Да таго ж карыстальнікі паляўнічых угоддзяў штотыдзень праводзяць мерапрыемствы па адпужванні дзікіх жывёл ад населеных пунктаў. У тым ліку выкарыстоўваюць і метад шумавога прагону, які да таго ж дазваляе кантраляваць колькасць драпежнікаў на пэўных участках лесу.

**Андрэй Захараў**
**www.sb.by**
**Пераклад рэдакцыі**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

АПЫТАННЕ

# АДМОЎНАЯ АЦЭНКА

**Напрыканцы студзеня чытачам сайта http://haradok.info ў сацсетках Укантакце і Аднакласнікі было прапанавана адказаць на пытанне: «Як дарожнікі і камунальнікі гэтай зімой чысцяць дарогі і двары ад снегу?»**

На працягу шасці дзён гэтае пытанне было даступна кожнаму наведвальніку груп у сацыяльных сетках. І за гэты час былі атрыманы наступныя вынікі.

У сетцы УКантакце на апытанне звярнулі ўвагу 1900 чалавек і 144 з іх адказалі наступным чынам на пытанне «Як дарожнікі і камунальнікі гэтай зімой чысцяць дарогі і двары ад снегу?»: лепш, чым раней — 7.64 %; як было так і ёсць — 15.97 %; горш, чым раней — 5.56 %; значна горш, чым раней — 23.61 %; а яны двары чысцяць? — 37.5 %; мне ўсё роўна, бо чакаю вясну — 9.72 %.

Гэтыя працэнты сведчаць, што дзве трэці апытаных адмоўна адказалі пра якасць працы дарожнікаў і камунальнікаў. Пры гэтым 37,5% апытаных абралі варыянт сарказму ў ацэнцы працы камунальнікаў, які ўтрымліваў сустрэчнаек пытанне: а яны двары чысцяць?

У сетцы Аднакласнікі на апытанне звярнулі ўвагу 2100 чалавек і 74 з іх адказалі наступным чынам на пытанне «Як дарожнікі і камунальнікі гэтай зімой чысцяць дарогі і двары ад снегу?»: лепш, чым раней — 5,4%; як было так і ёсць — 9,5%; горш чым было — 18,9%; значна горш, чым раней — 28,4%; а яны двары чысцяць? — 36,5%; мне ўсё роўна, бо чакаю вясну — 1,4%.

У гэтай сетцы, дзе больш наведвальнікаў з савецкай ментальнасцю, значна менш пазітыўных і нейтральных адказаў на першыя два варыянты. Адпаведна адмоўна і з сарказмам пра якасць уборкі дарог і двароў ад снегу адказалі 83,8% удзельнікаў апытання.

Звяртае ўвагу, што гэтыя працэнты амаль трапляюць у тыя афіцыйныя лічбы падтрымкі кіраўніка краіны, якія абвяшчае Цэнтрвыбаркам па выніках галасавання каторую выбарчую кампанію запар. І тут відавочны дысананс лічбаў падтрымкі і якасці працы улады з камунальнікамі і дарожнікамі. Як кажуць — штосьці не так.

Адначасова вынікі апытання ў групах сведчаць, што ўлады не спраўляюцца з арганізацыяй якаснай працы паа ўборцы снега. І гэта не толькі ў Гарадку і раёне, а ёсць праблема агульнадзяржаўнага маштаба.

**Л. Антонаў**

ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

# САМЫЯ НІЗКІЯ ЗАРОБКІ ПА КРАІНЕ

**Міністр лясной гападаркі Рэспублікі Беларусь Васіль Дрожжа на выніковай калегіі агучыў лічбы сярэднемесяных заробкаў ў сістэме Мінлясгаса і пракаментаваў прычыны адставання заробкаў у асобных лясгасах, як Гарадоцкім, Шумілінскім і іншых.**

Сярэднямесячная зарплата ў сістэме Мінлясгаса у 2018 годзе склала 963 рубля пры плане 933 рублі. Сярэдні заробак за снежань — 1036 рублёў пры плане 978 рублёў. Апярэджанне тэмпаў росту прадукцыйнасці працы над ростам заработнай платы па выніках мінулага года — 3,2 адсоткавага пункта. Міністр лясной гаспадаркі Віталь Дрожжа таксама агучыў чаканні ад цяперашняга года: сярэднямесячная зарплата работнікаў па годзе павінна быць не менш за 1016 рублёў, у снежні — 1138 рублёў.

Міністр запатрабаваў асаблівую ўвагу надаваць тым катэгорыям работнікаў, якія непасрэдна звязаны з працэсам вытворчасці і вядзення лясной гаспадаркі. Аказваецца, што леснікі летась атрымлівалі ў сярэднім 866 рублёў, ляснічыя — 1423 рубля, вальшчыкі лесу — 999 рублёў, машыністы харвестэраў — 1448 рублёў.

У той жа час у некаторых лясгасах зарплаты былі ніжэй за гэтую адзнаку. Напрыклад, машыністы харвестэраў ў Гарадоцкім лясгасе ў студзені — снежні ў сярэднім атрымлівалі 911 рублёў, у Шумілінскім — 969 рублёў, у Расонскім — 975 рублёў. У той жа час у Рэчыцкім — 2052 рубля, у Жыткавіцкім — 2180 рублёў, у Пастаўскім — 2894 рубля. Сярэдні заробак ляснічых Хойніцкага лясгаса склаў 815 рублёў, Дрегунского лясгаса — 880 рублёў, Бешанковіцкага — 980 рублёў. А ў Клічаўскім — 1960 рублёў, у Аршанскім — 2124 рубля, у Кастрычніцкім — 2170 рублёў.

Віталь Дрожжа патлумачыў гэта тым, што такая дыферэнцыяцыя абумоўлена недастатковым аб'ёмам выручкі і паступленняў ад вядзення лясной і паляўнічай гаспадаркі і адпаведна недахопам крыніц фінансавання лясгасаў. І таму адно з асноўных пытанняў да асобных кіраўнікоў у тым, каб яны арганізавалі працэс вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі для атрымання адпаведных крыніц фінансавання. «Трэба забяспечыць спецыялістаў, якія хочуць зарабляць, неабходным аб'ёмам работ», — падкрэсліў Віталь Дрожжа.

Ці выканаюць патрабаванне міністра ў Гарадоцкім лясгасе ды і ў суседніх раёнах — пакажа час.

**Л. Антонаў**
**паводле: https://www.sb.by**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

СПОРТ

# АМАЛЬ ПРЫЗЁРЫ ПА ЛЫЖНЫХ ГОНКАХ

**Каманда ДЮСШ г. Гарадка была блізка да трэццяга месца на першанстве краіны сярод ДЮСШ па лыжных гонках. 21-22 лютага ў Вараб'евых гарах прайшоў другі этап першанства краіны сярод ДЮСШ па лыжных гонках. Каманда ДЮСШ г. Гарадка паднялася ўверх на тры пазіцыі ў параўнанні з мінулымі гадамі.**

21 лютага ў Гарадку пачаліся галоўных старты юных лыжнікаў краіны ў другім этапе першанства Беларусі сярод 15 каманд краіны. Юныя лыжнікі спаборнічалі ў двух узрастовых групах: 2002-2003 г.н. і 2004-2005 г.н.. Нагадаем, што пасля першага этапу спаборніцтваў каманда гарадоцкай ДЮСШ упершыню паднялася на трэццяе месца ў агульным заліку сярод ДЮСШ Беларусі. І чарговыя старты павінны былі даць адказ на пытанне: ці выпадковы быў поспех юных лыжнікаў Гарадка.

У першы дзень лыжнікі спаборнічалі ў індывідуальнай гонцы на 5-10 км. Нашы лыжнікі ў агульнакамандную скарбонку прынеслі наступныя ачкі : сярод малодшай групы: Валера Трафімаў—24ачка,ЯгорКароткін — 18 ачкоў, Ірына Краўцова — 24 ачка, Ліза Любаўская — 18 ачкоў. А сярод старэйшых вызначыўся Захар Дарожкін, які 28 ачкоў і заняў 3 месца на дыстанцыі 10 км. Ульяна Горава прынесла камандзе 14 ачкоў, а Ліза Журава — першы нумар гэтага ўзросту — з-за хваробы не ўдзельнічала ў стартах. Нагадаем, што за першае месца давалася 30 ачкоў, 2-е — 29, 3-е 27 і г.д..

Усяго наша каманда набрала 141 ачко і апынулася на сёмым месцы пасля першага дня спаборніцтваў. І цяпер усё залежыла ад масстарта на другі дзень спаборніцтваў і да гарадоцкай каманды далучыўся наш выхаванец Аляксандр Паднябесаў.

Масстарты прынеслі наступныя ачкі нашай камандзе: Віка Карзунова — 25 ачкоў, Ірына Краўцова — 24 ачка і Аляксандр Паднябесаў — 23 ачка, Валера Трафімаў — 15 ачкоў. Арцём Нікалаеў заняў 14 месца і мог прынесці камандзе 17 ачкоў, але быў заяўлены асобна. У старэйшай групе Ульяна Горава прынесла 21 ачко, а Захар Дарожкін заваяваў 29 ачкоў, заняўшы 2 месца на дыстанцыі ў 10 км.

Наша каманда за другі дзень набрала 157 ачкоў і па выніках двух дзён стала шостай — не шмат саступіўшы 4-5 месцу. А па выніках двух этапаў нас абыйшла каманда «Алімпіец» з г. Віцебска, але мы выйгралі 2 ачка ў СДЮШАР г. Магілёва, набраўшы за дв аэтапа 768 ачкоў. Гэта дазволіла захаваць за сабой 4 месца — лепшае за мінулыя гады, як у Гарадку стала лыжаролерная траса.

Віншуем каманду і яе трэнераў з поспехам!

**Леанід Гаравы**

ДАВЕРЛІВАСЦЬ

# САМІ РАЗВІТАЛІСЯ З ГРАШЫМА

**Гарадоцкі раённы аддзел Следчага камітэту даследуе крымінальныя справы аб крадзяжы грашовых сродкаў з банкаўскіх картак дзвюх наіўных жыхарак Гарадка.**

Следчы Гарадоцкага РАСК Віктар Шышлакоў на старонцы газеты «Гарадоцкі веснік» распавёў гісторыю пра наіўнасць дзвюх жыхарак Гарадка, якія сталі дабраахвотнымі ахвярамі злачынцаў. Гэтая гісторыя датычыцца наіўных паводзінаў дзвюх жанчын у сацыяльнай сетцы «ВКонтакце». Але падобныя наступствы могуць быць і ў наведвальнікаў іншых сацсетак, якія замест разважлівасці праяўляюць даверлівсць да «фрэндаў».

Зламыснікі ў сацсетках дзейнічаюць па традыцыйнай схеме: «узломліваюць» старонку карыстальніка, які з'яўляецца «фрэндам» плануемай ахвяры. Звычайна гэта даволі блізкі знаёмы плануемай ахвяры.І са старонкі знаёмага «фрэнда» просяць ахвяру паведаміць ім рэквізіты банкаўскай карткі:16-значны нумар карткі і 3-значны код.

Чамусьці плануемая ахвяра ў нгэты момант адключае «мазгі» і паведамляе злачынцу канфедэнцыйныя даныя карткі, якія забаронена перадаваць іншай асобе. А далей, як кажуць, справа тэхніцы: невялікія навыкі працы з кампутарам і сродкі з карткі ахвяры пераходзяць у кішэнь злачынца.

Пры апытанні следчага пацярпелыя тлумачылі, што ведалі пра недапушчальнасць паведамленя рэквізітаў сваёй карткі іншай асобе, але думалі, што гэтага ашуканства з імі не здарыцца пры передачы рэквізітаў банкаўскай карткі «фрэнду» .

Пакуль следчыя шукаюць злачынцаў і раюць грамадзянкам не быць наіўнымі з «фрэндамі» у сацыяльных сетках, калі не жадаюць знікнення грошаў са сваіх картак.

**Л. Антонаў**

ПРАВАПАРУШЭННЕ

# ВЫВОЗІЛІ ЛОМ КАЛЯРОВЫХ МЕТАЛАЎ

**У Гарадоцкім раёне на мяжы з Расіяй затрымалі тры машыны з ломам каляровых металаў.**

Паводле прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МУС ў Гарадоцкім раёне былі затрыманы аўтамашыны «Таёта Ленд Крузер» з прычэпам, «Фіят Дуката» і «Фольксваген ЛТ 35» з ломам каляровых металаў без адпаведных дакументаў.

Прэс-служба паведаміла, што 7 лютага ў 17 гадзін супрацоўнікамі групы па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі і АДАІ Гарадоцкага РАУС на аўтадарозе каля вёскі Дубакрай Гарадоцкага раёна былі затрыманыя аўтамашыны «Таёта Ленд Крузер» з прычэпам, «Фіят Дуката» і «Фольксваген ЛТ 35». У гэтых машынах без адпаведных дакументаў перавозіўся лом каляровых металаў агульнай вагой 5371 кілаграмаў. Кошт канфіскаванай партыі металу склаў 10 тысяч рублёў. У дачыненні да перавозчыкаў: мужчын 1982, 1985 і 1989 гадоў нараджэння былі складзеныя пратаколы па артыкуле 12.29 КаАП Рэспублікі Беларусь.

Кожнага з мужчын чакае штраф ад 10 да 30 базавых велічынь з канфіскацыяй прадмета адміністрацыйнага правапарушэння або без .

Груз затрыманы.

**Т. Гаражанка**

ФІНАНСЫ

# У ШЭРАГУ САМЫХ КЕПСКІХ УПРАЎЛЕНЦАЎ

**Напрыканцы мінулага году фінансавыя паказчыкі Гарадоцкага раёна пагоршыліся.**

Галоўнае статыстычнае ўпраўленне Віцебскай вобласці апублікавала бюлетэнь «Сацыяльна-эканамічнае становішча Віцебскай вобласці за 2018 год». Статыстычныя паказчыкі фінансаў раёнаў і самой вобласці засведчылі пагаршэнне фінансавага становішча, як прадпрыемстваў, так і раёнаў і самой Віцебшчыны.

Ужо першы паказчык фінансавага становішча — рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі, тавараў, паслугаў засведчыў падзенне рэнтабельнасці па Віцебскай вобласці з 5,9% да 3,8%. Гэтае падзенне назіраецца амаль ва ўсіх гарадах і раёнах Віцебшчыны, у тым ліку і ў Гарадоцкім раёне, дзе яна зменшылася з 2,9% ў 2017 г. да –1,0% напрыканцы 2018 года. Найбольшае ж падзенне рэнтабельнасці ў мінус адбылося ў Шумілінскім раёне — да –2,3%. Усяго па вобласці мінусавую рэнтабельнасць зараз маюць 8 раёнаў, а годам раней было толькі чатыры. Дарэчы два гады запар маюць мінусавую рэнтабельнасць толькі тры раёна: Бешанковіцкі, Сененскі, Шаркаўшчынскі.

Аналагічна па вобласці упала і рэнтабельнасць прадаж — з 5,0% да 3,3%. Пры гэтым у Гарадоцкім раёне з 2,6% да –0,9%, а найбольш мінус па гэтаму паказчыку зноў у Шумілінскага раёна –2,1%.

Наступны паказчык па прыбытках арганізацый раёна Гарадоцкі раён выправіў у параўнанні з 2017 годам, калі спрацавалі са стратамі. За 2018 год прадпрыемствы раёна атрымалі прыбытак у 1 млню 225 тыс. рублёў. Між тым за гэты год упершыню ў вялікім мінусе апынуліся арганізацыі Наваполацка — страты склалі 111 млн. 447 тыс. рублёў, а таксама ў вялікі мінус спрацавалі арганізацыі Глыбоцкага, Лепельскага і Шумілінскага раёнаў. Усягу ж у вобласці на канец 2018 года 151 стратная арганізацыя, па Гарадоцкаму раёну іх 8, але гэта самая вялікая адносная колькасць стратных арганізацый у рэгіёнах Віцебшчыны — аж 47,1%. Па гэтаму кепскаму паказчыку наш раён у безумоўных лідэрах.

Таксама кепскімі з'яўляюцца і іншыя фінансавыя паказчыкі Гарадоцкага раёна ў 2018 гаду. Так пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць у раёне вырасла з 2 млн. 766 тыс. р. да 4053 тыс. руб — лдасягнула — 45,4% ад ўсёй запазычанасці, а пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць з 31 261 тыс. руб да 42 187 тыс. руб. і дасягнула ўжо 55,1% ўсіх атрыманых крэдытаў. Па гэтых паказчыках Гарадоцкі раён зноў апынуўся сярод тройкі раёнаў з кепскімі фінансавымі паказчыкамі. Ну а лідэрам ў самым кепскім фінансавым становішчы з'яўляюцца нашы суседзі з Шумілінскага раёна. Амаль паўсюдна...

**Леанід Гаравы**

ГІСТОРЫЯ ПМК-51

# «НІХТО НІКОМУ НЕ ПАТРЭБНЫ»

**Рабочыя ПМК-51 у Гарадку Віцебскай вобласці не атрымліваюць заробак з лістапада мінулага года. Людзі выходзяць на працу, але грошай не бачаць. Адно з буйных будаўнічых прадпрыемстваў рэгіёна сёння на мяжы закрыцця.**

Еўрарадыё высвятляе, як людзі жывуць некалькі месяцаў без грошай і калі ім нарэшце выплацяць заробак.

**«Хто маладзейшы, дык з'ехалі. Астатнім у Гарадку няма куды ісці»**

Галоўнай прычынай заняпаду ПМК-51 мясцовыя жыхары называюць частую змену кіраўніцтва прадпрыемства.

«Прадпрыемства развальваюць да апошняга, бардак адным словам, — распавядае Еўрарадыё рабочы ПМК-51. — За лістапад яшчэ не было заробку. Хаця там і зарплата 280-300 рублёў. Сем дырэктараў за апошні час змянілася. Хто расцягваў прадпрыемства, хто распрадаваў, а цяпер нікому справы няма. Адзін з апошніх кіраўнікоў з Віцебска на працу прыязджаў. „Парадак" тут навёў — і ў аблвыканкам на павышэнне».

На прадпрыемстве працавала 300 чалавек. Цяпер засталося каля 70. За апошні год большасць рабочых звольнілася і з'ехала на заробкі за мяжу. Тых, хто застаўся працаваць, перавялі на няпоўны рабочы тыдзень. Каб выжыць у райцэнтры без заробкаў, людзі бяруць пазыкі.

«Так і жывём, — дадае жыхар Гарадка. — Пазычаем на жыццё. Хто маладзейшы, дык з'ехалі. У Гарадку няма куды ісці. Ніхто нікому не патрэбны. Цяпер выконваючы абавязкі кіраўніка застаўся, але ён нічога не ведае. Прарабаў, майстроў няма. Нават інструменту, каб працаваць, няма. Нядаўна хлопцы прыехалі на аб'ект, а з інструментаў кавадла і лом. Усё было, а цяпер — нічога»...

**«Сітуацыя складаная»**

Намесніца дырэктара ПМК-51 Таццяна Турчанка распавядае Еўрарадыё, што пытанне па запазычанасці будзе вырашанае на працягу двух тыдняў:

— Чаму вы не хочаце патэлефанаваць у Гарадоцкі райвыканкам? Старшыні райвыканкама ці яго намесніку па будаўніцтве?

— Адзін не хоча размаўляць, другі не адказвае на званкі.

— Сітуацыя складаная, нявыплата па зарплаце існуе. Раённыя ўлады нешта спрабуюць зрабіць, да чаго гэта прывядзе, складана сказаць. Паспяховым прадпрыемства было гадоў дзесяць таму. Тады былі аб'ёмы. Цяпер іх няма. Дзесяць гадоў таму працавалі каля 300 чалавек, сёння засталося 65. Казаць, што раённыя ўлады бяздзейнічаюць, нельга. Думаю, што праз адзін-два тыдні па зарплаце павінны разлічыцца цалкам.

Як распавядала Еўрарадыё, у аналагічным становішчы апынуліся і будаўнікі смаргонскай фірмы. За лістапад людзі атрымалі заробак толькі ў студзені. Старшыня прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч патлумачыў, што рабіць людзям, калі працадаўца затрымлівае грошы.

**"Еўрарадыё"**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ЯК ПРЫКЛАД ДЗЯРЖАВЫ ПА ПАНЯТКАХ

**Нашы недатыкальныя, у адрозненне ад недатыкальных у Індыі, месяцца не на дне, а на вяршыні сацыяльнай іерархіі.**




…Чвэрць стагоддзя знаходжання аднаго чалавека на пасадзе, якая не прадугледжвае ніякіх абмежаванняў, у тым ліку і канстытуцыйных, — падзея ўнікальная. Можна сказаць, што ў геаграфічным цэнтры Еўропы прыродапаставілаэксперимент на радасць усім, хто цікавіцца гуманітарнымі ведамі. Дзе і калі яшчэ складуцца ўмовы для яго паўтарэння? Так што варта не адцягвацца, а лавіць кожнае слова пентачэмпіёна электаральных прэзідэнцкіх кампаній.

**Недатыкальныя**

На шчасце, за словам у кішэню АП лезці не прывык. Абмяжуюся адным адкрыццём з прэс-рэліза ад 15 студзеня, прысвечанага разгляду кадравых пытанняў: «Пакуль на стол мне не пакладуць вычарпальныя факты, ніхто да вас (прызначэнцаў АП. — Заўвага рэд.) дакрануцца не можа. Вы знаходзіцеся ў кадравым рэестры прэзідэнта і, натуральна, пад абаронай прэзідэнта. Але калі толькі я бачу канкрэтныя правапарушэнні, асабліва звязаныя з хабарамі і іншымі праявамі карупцыі, значыць, памнажайце на два як мінімум».

У Беларусі, такім чынам, маецца каста недатыкальных. Але, у адрозненне ад Індыі, дзе гэта каста знаходзіцца на самым дне сацыяльнай іерархіі, у «дзяржаве для народа» недатыкальныя належаць да вышэйшай касты, а дакладней, да вышэйшага саслоя.

Я не памыліўся. Нягледзячы на адсутнасць паняцця «саслоўе» ў Канстытуцыі, нам выпала шчасце/няшчасце (патрэбнае падкрэсліць) жыць у саслоўным грамадстве.

Грамадства капіталістычнае з яго класавай структурай, заснаванай на спажыванні (найбольш нізкі, сярэдні і вышэйшы клас), у Беларусі так і не склалася. З хаосу «ліхіх 90-х», як фенікс з попелу, адрадзіліся саслоўі. Гэта катэгорыя ўведзеная ў навуку для апісання іерархій служэння.

У рынкавай эканоміцы працуюць дзеля ператварэння рэсурсаў у капітал, у рэсурснай — служаць дзеля справядлівага размеркавання рэсурсаў. Таму паняцце справядлівасці з'яўляецца базавым у саслоўнай будове свету. Пра гэта рэгулярна і нагадвае АП.

«Саслоўная сацыяльная справядлівасць, — тлумачыць расійскі сацыёлаг Сымон Кардонскі, — палягае ў размеркаванні рэсурсаў паміж саслоўямі прапарцыйна іх становішчу ў іерархіі саслоўяў». Іншымі словамі, такі від справядлівасці не прадугледжвае механічнай роўнасці ні ў размеркаванні матэрыяльных выгод, ні роўнасці перад законам. Усё якраз наадварот. Тым, хто спрабаваў судзіцца з дзяржавай, спадзяюся, тлумачыць гэта не патрэбна.

Як у савецкім мультфільме пра казляня, якое ўмела лічыць да дзесяці, дзяржава нас не толькі ўсіх пералічвала, але і ранжыравала з пункту гледжання карыснасці для сябе. А карысць ад кожнага з нас далёка не аднолькавая. Адна справа — лекар і настаўнік, а зусім іншая — чыноўнік і сілавік.

Асобным радком праходзяць тыя, каму пашчасціла патрапіць у кадравы рэестр АП. Пра гэта ён і нагадаў 15 студзеня.

Здавалася б, пры чым тут кадравы рэестр? Канстытуцыя такога паняцця не ведае. Затое ў ёй 185 (!) разоў згадваецца слова «закон». Але мае рацыю, тройчы мае рацыю АП, калі заяўляе, што «ўсё ў законах не прапішаш». Законы — гэта афіцыйная нарматыўная сістэма. Але яна не адзіная. У яе існуе канкурэнт — сістэма паняццяў, што ўзыходзіць да крымінальнай і турэмнай культуры.

Кожны постсавецкі чалавек, як і яго савецкі папярэднік, убірае з малаком маці ўменне выбару «правільнай» нарматыўнай сістэмы, г.зн. максімальна адпаведнай канкрэтнай сітуацыі.

«Сваім — усё, чужым — закон». Гэты базавы прынцып жыцця па паняццях не ў Беларусі вынайдзены, аднак і парламент не беларусы прыдумалі. Але ж жыць хочацца, і пажадана жыць так, каб потым не было пакутліва балюча за змарнаваныя гады…

**Калі гэтага не зразумеў — значыць, не міністр**

Вернемся да нарады ў АП 15 студзеня. Акрамя выдатнага прызнання «На тэрыторыі Мінскай вобласці ў вёсцы я сам жыву», падзея запомнілася двума адкрыццямі вясковага жыхара наконт пытанняў адукацыі. Яны прагучалі пры прызначэнні Міхаіла Лусцянкова рэктарам Беларуска-Расійскага універсітэта.

Першае тычылася неабходнасці прывядзення школьных праграм у нармальны выгляд: «У нас часам ужо ў восьмым-дзявятым класе вывучаюць тое, што мы раней вывучалі ў ВНУ. Няўжо так жыццё паскорылася? Няўжо ўсіх іх матэматыкамі рыхтуем? Таму трэба вельмі сур'ёзна заняцца адукацыяй. Калі міністр гэтага не зразумеў — значыць, ён не міністр».

Другое адкрыццё перакінула масток паміж сярэдняй адукацыяй і вышэйшай. Апошняя падпала пад крытыку за бесперапынныя спробы ўкараніць чужую нашай традыцыі двухпрыступкавую сістэму падрыхтоўкі спецыялістаў: «У магістратуру павінны ісці пераважна людзі, якія будуць займацца навукай і выкладаннем. Усіх туды скопам пасылаць не трэба. Добра, мы прысвоім званне бакалаўра пасля заканчэння ВНУ, каб дыпломы падыходзілі, але будзем лічыць, што гэта чалавек з вышэйшай адукацыяй».

Цікава, як падобныя адкрыцці спалучаюцца з прадэклараваным курсам на пабудову IT-краіны, або перад намі чарговы прыклад стужкі Мёбіуса? Але калі гэта так, дык любое рашэнне АП, якім бы экстравагантным яно ні здавалася для іншых назіральнікаў, не будзе выходзіць за межы «беларускай мадэлі».

Нешта падобнае мае аднагодкі маглі назіраць на прыкладзе КПСС, што абвясціла сябе кіруючай і накіроўваючай сілай савецкага грамадства. Любыя рашэнні, якія прымалі верныя ленінцы, заўсёды былі адзіна правільнымі, у тым ліку і рашэнні па адмене папярэдніх рашэнняў. А ўсім астатнім заставалася толькі вагацца разам з лініяй партыі, што яны паспяхова і рабілі, пакуль нечакана не выявілася, што нейкі Гарбачоў разваліў краіну.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

МАНИФЕСТ МАЦКЕВИЧА

# «Я НИКОГДА НЕ БУДУ РУССКИМ, РОССИЙСКИМ ГРАЖДАНИНОМ! А ВЫ?»

**Незалежнасць нашай краіны — наша агульная каштоўнасць, наш здабытак. Калі мільён грамадзян выкажа сваю пазіцыю — з гэтым ніхто не зможа не лічыцца. І тады мы выйдзем на Плошчу святкаваць чарговыя ўгодкі нашай незалежнасці, а не пратэставаць супраць яе продажу.**

**Отвести беду, пока она не произошла**

Неприятности предсказуемы. Опасности видны издалека. Не стоит дожидаться, пока беда придёт в дом, нужно принять меры к тому, чтобы она вообще не наступила.

От случайных неприятностей люди страхуются, но большинство неприятностей и бед вовсе не случайны, они возникают от небрежности, беспечности, недальновидности, самоуспокоенности. И от глупости. Это когда люди сами напрашиваются на неприятности, бездумно рискуют, не хотят замечать угрозу.

Угрозапотеринезависимости нашей страны существует с 1994 года, когда три из шести предвыборных президентских программ, так или иначе, содержали отказ от атрибутов независимости. В 1998 году были подписаны соглашения, которые открывали юридические возможности для поглощения Беларуси Россией.

И вот уже 20 лет мы живём с этой угрозой. В минувшем году ситуация обострилась. В СМИ развернулась широкая кампания, содержащая, по большей части, фейковые новости и домыслы незаслуживающих доверия политиков, экспертов и комментаторов. Информационная волна подкреплялась назначением российского посла с сомнительной репутацией, заявлениями российского премьер-министра на беларуской земле, навязчивыми уверениями беларуского президента о своём суверенитете, налоговом манёвром России, участившимися безрезультативными встречами президентов двух стран…

**Что я знаю и чего не знаю**

Я знаю, что вопрос об инкорпорации Беларуси в Россию все последние десятилетия не снимался с повестки дня в Кремле, но всегда помещался в «долгий ящик», откладывался на потом. Но я не знаю, под каким номером этот вопрос стоит в актуальной повестке дня…

Я знаю, что российскими пропагандистами распространяются два противоречащих друг другу мифа про Беларусь. Основной миф утверждает, что беларусы и русские один народ, ничем друг от друга не отличаются, и все беларусы хоть сейчас готовы с радостью и благодарностью влиться в Россию, только Лукашенко и его окружение этому препятствуют. Другой миф, напротив, уподобляет Беларусь Украине, где тон задают «западэнцы», националисты, «бандеровцы», и вот-вот случится беларуский майдан, который Россия обязана предотвратить любой ценой. Но я не знаю, в какой из мифов больше верят в России, и какой из мифов станет официальной версией Кремля в случае реализации сценария инкорпорации Беларуси. От того, какой из мифов будет избран в качестве основного, зависит то, насколько грубой и кровавой будет реализация.

Я знаю, что все слова Лукашенко о независимости и суверенитете — пустая риторика. Ценностью и целью для него является только власть. Пока независимость и суверенитет Беларуси остаются условиями его власти. Он будет готов принять и другие условия, вместо этих, если цена его устроит. Торг независимостью тянется уже больше двух десятков лет, значительная часть суверенитета уже продана. Но я не знаю, о чём торгуются президенты России и Беларуси на этот раз. Что выставлено на продажу, и какова цена?

Я знаю, что за соглашения о так называемом Союзном государстве Беларуси и России мы заплатили большую цену. Развитие страны затормозилось на десятки лет. Мы упустили возможность сделатьнашупромышленность конкурентоспособной при рыночных ценах на энергоносители, поставили всю экономику в зависимость от другой страны. Мы и сейчас теряем на экспортно-импортных операциях, поскольку они отрегулированы в пользу России, а не Беларуси. Мы опоздали с развитием транспортной и логистической инфраструктуры, в инвестировании в инновационные отрасли экономики. Социальные, культурные, гуманитарные потери вообще не поддаются учёту. Мы не контролируем информационную сферу и сферу образования. Поставили беларуский язык на грань выживания. Почти убили кинематограф, книгоиздательство, популярную музыку. Теряем позиции в туризме, рекреационном бизнесе, отдали россиянам сферу развлечений, открыв для них множество казино. Но я не знаю, понимают ли всё это граждане Беларуси и правительство.

*(працяг на стар. 4)*

МАНИФЕСТ МАЦКЕВИЧА

*(пачатак на стар. №3)*

Я знаю, что инкорпорация Беларуси в Россию обернётся огромными, неисчислимыми потерями для нашей страны, для абсолютного большинства людей. Ущерб и потери понесёт от этого понесёт и Россия. Очень немногие в России это понимают, а те, что понимают, не могут ничего изменить. Но я не знаю, многие ли беларусы это понимают. Многие ли понимают? Сколько из тех, кто понимает, готовы что-то предпринимать, чтобы не допустить беду в нашу страну, в каждый дом?..

**Моё решение**

Своё решение я принял давно, и оно неизменно. В октябре 1998 года я уведомил о своём решении президента Лукашенко, он тогда ещё был легитимным, законно избранным. Такое же заявление ушло смещённому в результате государственного переворота спикеру парламента Семёну Шарецкому и тогдашнему российскому послу. Тогда вместе со мной заявления с таким же текстом отправили более пятидесяти руководителей Конгресса демократических профсоюзов, от председателя Геннадия Быкова до председателей многих первичных организаций. Насколько я знаю, такие же письма были направлены по этим адресам ещё многими членами профсоюзов и другими людьми. Такие же заявления можно писать и сейчас. Правда, парламента в стране нет уже 22 года. Но, ОНИ ДОЛЖНЫ ЗНАТЬ нашу позицию. Сколько нужно таких заявлений? Я не знаю. Чем больше, тем лучше. Когда-то под моим текстом поставили подписи 120 000 граждан Беларуси. Думаю, что этот рекорд пока не побит, и я не собираюсь его бить. Сейчас, как и в конце 90-х, значение имеет личная гражданская позиция.

И эту позицию нельзя скрывать и прятать. Никогда не стоит скрывать и прятать гражданскую позицию, а уж перед лицом угрозы нельзя ни в коем случае.

Независимость нашей страны — наша общая ценность, наше достояние. Если миллион граждан выскажет свою позицию, с этим никто не сможет не считаться. И тогда мы выйдем на Плошчу праздновать очередную годовщину нашей независимости, а не протестовать против её продажи.

Я не хочу в Россию! А вы?

*(скарочана)*

**Владимир Мацкевич**
**https://belaruspartisan.by**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# ПУТИН ОТРЕЗАЛ ЛУКАШЕНКО ЗАПАДНЫЙ ВЕКТОР

**Из-за переговоров в Сочи белорусский президент был вынужден отказаться от поездки в Мюнхен...**

О главном Александр Лукашенко с Владимиром Путиным в Сочи, похоже, так и не договорился. Но и на серьезные уступки, судя по всему, не пошел. «Не маневрами только живы люди», — отмахнулся белорусский президент 15 февраля в Сочи от прессы, которой зудело узнать, обсуждалась ли компенсация за налоговый маневр в российской нефтянке.

**Казуистика на тему суверенитета и независимости**

Да, в этой служебной командировке Лукашенко вместе с Путиным предавался разным здоровым утехам: горные лыжи, хоккей, совместная трапеза с розовыми после свежего воздуха лицами...

Но кто поверит, что президент Беларуси выбрался туда ради этих удовольствий? Он ведь и дома потешные соревнования регулярно устраивает — от рождественского хоккейного турнира до «Минской лыжни».

На самом деле нефтяная компенсация — не пустяк. Сам Лукашенко ранее говорил, что если ее не дадут, то Беларусь потеряет около 400 млн долларов только в нынешнем году, а за все время маневра — аж 15 млрд долларов.

И если вопрос не сдвинулся, это означает, что Минск де-факто не готов на дальнейшую интеграцию по российскому сценарию, а Россия не готова быть щедрой душой за так…

Сегодня в Сочи белорусский президент снова затронул эту тему: «Зачем нам поднимать вопросы суверенитета Беларуси и России? Это икона, это святое... Мы даже в этом контексте не обсуждаем эти проблемы».

Правда, рассуждения выглядели путаными, поскольку вслед оратор вдруг произнес фразу, которая вызвала оторопь у белорусских националистов: «Для меня независимость — это понятие относительное».

Более того, Лукашенко подчеркнул, что два лидера «готовы настолько идти далеко в единении, объединении наших усилий государств и народов», насколько готовы сами народы.

Путин же оценил итоги переговоров лапидарно: «Мне кажется, что работа у нас получилась». Обмолвился, что тема союзного договора обсуждалась, но конкретики не пролил. И тоже пожонглировал казуистикой на тему, что независимость в современном мире условна.

**Попытались спрятать неудачу**

«Они попытались спрятать свою неудачу, однако получилось неуклюже», — так в комментарии для Naviny.by оценил высказывания двух президентов после переговоров эксперт аналитического центра «Стратегия» (Минск) Валерий Карбалевич.

У него сложилось впечатление, что Лукашенко, рассуждая сегодня перед журналистами о воле народов в процессе интеграции, заочно продолжал спор, происходивший на переговорах.

«Ссылки на народ — это как бы еще один способ отвертеться от интеграции», — считает аналитик.

Добавлю: в этом контексте многозначительно прозвучала ремарка Лукашенко, что «если [народы] не готовы, какая бы ни была мощная и огромная Россия, она сегодня не в состоянии навязать кому-то волю».

Действительно, Россия в лице Путина сегодня выглядела даже чисто физически уязвимо. Тот пришел на встречу с Лукашенко с пластырем на пальце. Но — никакой конспирологии: это вчерашняя травма на тренировке по дзюдо, пояснил пресс-секретарь Кремля.

Карбалевич сомневается, что в дни сочинских переговоров стороны действительно не касались налогового маневра. Аналитик обращает внимание на состав делегаций в первый день: «Там были министры как раз на эту тему».

Действительно, 13 февраля в обеих переговорных командах были в основном представители финансово-экономического блока. С российской стороны, в частности, присутствовали первый вице-премьер и министр финансов Антон Силуанов, вице-премьер Дмитрий Козак, глава Минэкономразвития Максим Орешкин, посол в Беларуси Михаил Бабич (также погруженный в экономическую тематику).

Все они, к слову, в последние пару месяцев отметились жесткими заявлениями по Беларуси…

Вряд ли Путин собрал этих серьезных мужчин, чтобы поболтать с белорусскими гостями о природе и погоде. Скорее, разговор шел о главном и по гамбургскому счету.

А коль не срослось, то лучше сказать, что больные темы и не трогали. И вообще — что они не так уж важны. Как в басне про лису и виноград…

**Политический хоккей на измор**

На этот же раз два государственных лидера плюс младший сын белорусского президента Николай Лукашенко демонстративно погоняли шайбу в одной команде.

Но искушенная публика понимает: на принципиальные вопросы двусторонних отношений эта идиллия не распространяется. У российской и белорусской переговорных команд — разные установки, а по большому счету — разные интересы. Пока особо сблизить позиции, похоже, не удалось.

Впрочем, вероятно, что Лукашенко дал понять: он выбирает не продвинутый, а, пользуясь термином Медведева, консервативный вариант интеграции. Кремль, в свою очередь, пока решил не перегибать палку. Не хотите — как хотите, но тогда на наши пряники особо не надейтесь. То есть — очередной шаткий временный компромисс.

Да, а в Мюнхен отправили председателя КГБ Валерия Вакульчика. Почему тогда не министра иностранных дел, архитектора разрядки с Западом Владимира Макея?

В социальных сетях тут же вспомнили, что когда у Лукашенко не выплясывалось самому лететь в Европу, то на всякие форумы посылались технические фигуры, исполнители без намека на политические амбиции. В этом есть своя логика, если вспомнить фразу бессменного президента, что в Беларуси — один политик.

Так или иначе, но на чисто символическом уровне получилось, что Путин в этот раз спутал Лукашенко карты на западном направлении…

Политический хоккей на измор продолжается.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**«БЕЛАПАН»**

НОБЕЛЕЎСКІ ЛАУРЭАТ

# «БУДУТ НОВЫЕ ВРЕМЕНА»

**Нобелевский лауреат Светлана Алексеевич — о своей новой книге, ценности семьи и о том, что делать, когда кажется, что повлиять ни на что нельзя.**

**Об угрозе поглощения Беларуси**

«То, что мы паразитировали более двадцати лет, это на совести нашей власти. Она несет ответственность — и это было ясно еще двадцать лет назад, что придется за это расплачиваться, что нельзя жить за чужой счет. Мы и так опоздавшая нация, а теперь еще больше времени потеряли.

Российская сторона настроена очень серьезно. Я даже встретила нескольких молодых людей на своей последней встрече, которые не исключают себя „в лесах". Я больше всего боюсь крови. Всё, что угодно, можно жить и без горячей воды, но все-таки без крови. Это важнее всего. Я лично не знаю, какой выход из этого.

Без конца выходят статьи в русской печати, что, дескать, Лукашенко смотрит на Запад и предает Россию. С одной стороны, Россия не хочет платить за то, чтобы ее не предавали, а с другой стороны, обвиняет Лукашенко, что он это делает.

Только он поздно это делает, давно пора было смотреть на Запад. И есть опыт Украины, очень трагический, моей любимой страны, где гибнут молодые люди. Я бы не хотела такого.

Власть настроена как всегда — выбить деньги на один год, нет долгосрочного видения страны и будущего. Ну, еще на год можно отодвинуть проблему. Но проблема есть, и у России есть какая-то своя прямота. Путь, который прошла та же Прибалтика в 90-е, перед нами стоит сегодня. Когда мне писала знакомая профессор из Риги, что они в зимнем пальто ведут лекции. Но они отстояли свою независимость. Я думаю, что у нас после будут плохие времена. Не знаю, в какой форме, но они будут»…

**О белорусском обществе**

«У нас есть хорошие люди, есть культурные люди, есть очень хорошие профессионалы. А общества, которое объединено какой-то общей ответственностью, этого у нас нет. Мы не сформировавшееся общество. Что бы ни случалось, всё проходит, с нами можно сделать всё».

«Нам нужен лидер типа Гавела. Который не опускается вместе с самой темной частью народа, а который поднимает свой народ. А в народе много всего. Думаю, что наша власть понятия не имеет, что такое народ. Это не то, что было 25 лет назад в деревне. Люди ездят, смотрят на другую жизнь. Наше общество умнее и в массе, и в оппозиции. Почему наши страдания не конвертируются в свободу, чувство собственного достоинства, это большой вопрос».

«Когда писала книги, порой в слезах после встречи шла домой и думала: почему он после такого страдания, почему, как только заговоришь о сегодняшней жизни, ты видишь перед собой раба, который принимает эту жизнь да еще и Сталина может любить в придачу. Он как-то умещается в нашем человеке. Он хочет иметь и шенгенскую визу, и портрет Сталина в доме».

«На нас ответственность за этих новых людей, которые у нас в семье, в школе, вот где надо бороться. Я не верю в уличные демонстрации. Взять хотя бы столетие БНР, как его отмечали. Какой смысл, как Статкевич, выбежать, покричать „долой Лукашенко", его схватили, и всё. А молодые ребята организовали, люди вышли, слушали белорусские песни, покупали белорусские книги. Там была масса людей, которые никогда бы не вышли в другом случае. Было видно, что они чувствовали себя белорусами».

*(скарочана)*

**Ян Авсеюшкин**
**https://naviny.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 27.02.2019 у 14.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна добраахвотнікамі.